

# Дзяньніца
# Dziańnica

ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАНЬНЕ ГРАМАДЗКАГА АБ'ЯДНАНЬНЯ "УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ" ЧЭРВЕНЬ 2000 № 6

## У сёньняшнім нумары:



# РАСЕЙСКІ ТРЫКАЛЁР НА БЕЛАРУСКАЙ ДЮСШ




Вось ужо трэці год на фасадзе нафтанаўскай ДЮСШ вісіць вялізная эмблема Алімпійскага камітэту Расейскай Фэдэрацыі. Пазіраючы на сьцяг суседняй дзяржавы, які ўпрыгожвае эмблему, кожнага разу ловіш сябе на думцы: ці магчыма такое ў Летуве, Латвіі ці на Ўкраіне? І ці можа сабе дазволіць дырэктар якой-небудзь расейскай спартовай школы вывесіць на фасадзе эмблему суседняй дзяржавы? Пытаньні, вядома ж, рытарычныя.

У нас жа, як бачым, можна пазначаць фасады спартовых школаў любымі сымболямі, апроч беларускіх.

Уявім сабе, што дырэктар вышэйпамянёнай установы прымацаваў над уваходам эмблему Нацыянальнага Алімпійскага камітэту РБ у яе першапачатковым выглядзе: з выяваю бел-чырвона-белага сьцяга. Разглядаючы такую падзею ў яе разьвіцьці, можна a priori сьцьвярджаць, што наступным днём у школу прыйдзе ўчастковы і здушаным голасам прамовіць: "Снимите!"

Дый ня дзіва! Сьвяты для кожнага беларуса бел-чырвона-белы сьцяг знаходзіцца сёньня па-за законам: ён запэцканы, падзерты, запляваны і заменены сталінскай харугвай узору 1951 году. А там-сям і расейскім трыкалёрам, пад якім, дарэчы сказаць, за часамі апошняй вайны змагалася так званая "Русская Освободительная Армия" генэрала Ўласава. Зрэшты, ня будзем, у вадрозьненьне ад Беларускага тэлебачаньня, вешаць ярлыкі і поркацца ў палітычным брудзе. Пагадзімся з тым, што трыкалёр — гэты сымболь Свабоднай Расеі, як і з тым, што дэманстратыўнае вывешваньне яго на фасадах наваполацкіх будынкаў — гэта нішто іншае, як заклік да канчатковай ліквідацыі Беларусі як самастойнай дзяржавы.

**Б.Белаказовіч**

# НАС СТВАРЫЛА МУЗЫКА

*Хтосьці зь вялікіх — здаецца, Мантэнь, — выдаў дарэшты простую, і разам з тым геніяльную сэнтэнцыю пра тое, што ў маладосьці мы пазіраем наперад, у будучыню, а ў старасьці азіраемся назад, спрабуючы ўгледзець у мроіве пражытых гадоў штосьці дагэтуль неспазнанае. І хаця слова "старасьць" непрыемна казыча слых і выклікае нутраны пратэст нават у людзей што ні на ёсьць сталага веку, экстрапалюючы згаданую сэнтэнцыю на ўласную асобу, кожнага разу ўздыхаеш і засяроджана чухаеш падбародзьдзе.*

Нешматлікія чытачы маіх аповедаў раз за разам упікаюць аўтара за несучаснасьць, часавую закамплексаванасьць і прасторавую абмежаванасьць. І сапраўды, Ёкнапатофа мая займае невялічкі лапік зямлі дзесьці на паўночным усходзе Беларусі, а яе насельнікі й дагэтуль жывуць дзесьці прыканцы 60-х — пачатку 70-х гадоў. Аўтар, шчыра кажучы, і сам захрас у тым рамантычным часе — часе, калі чаўны-спадарожнікі баразьнілі бяскрайнія прасторы космасу, калі ў літаратурных клясыках хадзіў Пятрусь Броўка, а ў школах ішло змаганьне з кароткімі спадніцамі ў дзяўчын і даўгімі валасамі ў дзецюкоў, калі сьпявалі Вадзім Мулерман і Валеры Абадзінскі, а беларусы канчаткова здэградавалі як нацыя. Гэта былі крыху наіўныя, у меру п'яныя, крыху вусьцішныя, але дарэшты хуткаплынныя гады. І калі ў XVI - XVII стагодзьдзях, як сьведчаць гісторыкі, надарыліся Вялікія геаграфічныя адкрыцьці, дык на канец 60-х гадоў XX стагодзьдзя прыпалі адкрыцьці іншага кшталту. У прыватнасьці, аўтар гэтых нататак адкрыў для сябе такія фундамэнтальныя рэчы, як pop-musick, студэнцкія дэманстрацыі ў парыскім Лацінскім квартале, апавяданьні Эрнэста Гэмінгуэя і француская кіно.

... Студзеньскім вечарам 1968-га я сядзеў у халоднай залі кінатэатру "Космас" і пачуваў сябе ніякавата: народу на сэанс прыйшло зусім мала, хаця на аблепленай сьнегам афішы чырванілася спакусьлівае слова "Францыя".




У тую пару францускія фільмы круцілі зрэдку, народу ў "Космас" набівалася як завязаць, а на "Трох мушкетораў" нават прадавалі "стаячыя" білеты. Цяпер жа ў залі тырчэлі рэдкія галовы і ў мяне, смаркатага юнака, быў той настрой, які навачасныя псыхолягі назвалі б высокім узроўнем трывогі. Але вось загучала музыка, на пакрэсьленым рухавымі пісягамі экране мільганулі цітры, і галовы, зразумеўшы, што патрапілі "на оперу", узьняліся і паплылі да выхаду. ...Студзеньскім вечарам 1968-га ў кінатэатры "Космас" круцілі "Шэрбурскія парасонікі".

Малады хлопец любіўся зь дзяўчынай, пайшоў у войска, патрапіў у Альжыр, дзе ішла вайна, дзяўчына тым часам нарадзіла дзіцёнка і пабралася з прадпрымальнікам... Францускі варыянт бамбэйскіх кінасмаркачоў, які, па ідэі, мусіў выклікаць нэрвовы сьверб у пахвіне, спачатку захапіў, потым уразіў, а ў сваіх апошніх кадрах да таго ўзрушыў маладую душу, што і цяпер, праз трыццаць два гады, ужо дарэшты зьняверaная і бяскрылая, душа кожнага разу замірае пры першых гуках леграpаўскай мэлёдыі. Я й сёньня не магу ўцяміць — чым уразіў банальнасюжэтны м'юзыкал сяміклясьніка В. Мудрова, а разам зь ім і ўсю цывілізаваную Эўропу? Шыкоўнымі валасамі К. Дэнёў? Не менш шыкоўнай музыкай М. Леграна? Творчымі знаходкамі рэжысэра Ж. Дэмі? З дапамогаю чыстай лёгікі на гэтае пытаньне не адкажаш, а між тым "Шэрбурскія парасонікі" сталіся вяхой ня толькі ў эўрапейскім мастацтве, але і ў жыцьці сяміклясьніка В. Мудрова. Жыцьцё напоўнілася новым зьместам і новай эстэтыкай. Сяміклясьнік перастаў усур'ёз успрымаць савецкую літаратурную клясыку, гідзіўся, пазіраючы на тлустых савецкіх сьпевакоў, і ў кожнай дзяўчыны, зь якой знаёміўся, абавязкова пытаўся: ці бачыла яна "Шэрбурскія парасонікі"?

А яшчэ праз пару месяцаў душа мая зазнала чарговае ўзрушэньне. Сябрук, зь якім мы вучыліся ў паралельных клясах, прапанаваў завітаць да свайго стрыечнага брата: брат вучыўся ў Маскве і прывёз адтуль кружэлку з запісам ансамбля

"Бітлз".
Прыйшлі да брата сярод белага дня, але той, адчыніўшы дзьверы, паўстаў перад гасьцямі страшэнна заспаным і яшчэ больш незадаволеным. "Ізноў..."— прастагнаў студэнт і стогн гэты выдаваў на тое, што я быў далёка ня першы, хто прыцёгся паслухаць кружэлку. Сябрук моўчкі махнуў рукой, маўляў, не зьвяртай увагі, і мы на цырлах прайшлі ў пакой. На прайгравальніку аграмаднай радыёлы ўжо стаяла супрафонаўская "саракапятка".
— Усе іх лаяць, а, між іншым, прыемная музыка,— заўважыў сябрук, уключыўшы радыёлу.
Пра "Бітлз" на той момант я ўжо чуў шмат розных плётак, чытаў разгромны артыкул у "Камсамольскай праўдзе" і нават бачыў "бітлух" на экране. Летась на дваровай агітпляцоўцы круцілі кіначасопіс "У краінах капіталу" і тамака мільгануў сюжэт: нечыя голыя ногі калацілі па клявіятуры піяніна, гучаў забойны музон (цяпер згадваю — гэта быў "Rock'n Roll Musick" Чака Бэры), і суворы голас за кадрам тлумачыў: "А гэта — куміры заходняй эстрады, сумна вядомы "Бітлз".
Паглядзеўшы кінаролік, я тады ўсур'ёз надумаў, што "куміры заходняй эстрады" злоўжываюць "Кока-колай", а ўпіўшыся да божай моцы, вычвараюцца, як могуць, на сцэне.
... Сябрук сьцярожка апусьціў гуказдымальнік, шапятнуў французскае імя Мішэл і ў нетрах радыёльных брынкнула гітарная струна. Я слухаў шчымлівую мэлёдыю з глыбокім перакананьнем, што сябар нешта пераблытаў, наставіў ня тую кружэлку: зьверападобныя істоты, якіх паказвалі "ў кіне" папросту не маглі сьпяваць такіх песьняў. "Мі-і-шэл, ма бэл",— гучэла з дынаміку, і нейкая цёплая хваля падымалася ў грудзёх, і мне карцела некуды бегчы, і здавалася, што гэтая песьня заўсёды жыла ўва мне ды толькі цяпер набыла голас.
Праз шмат гадоў давялося пабачыць адзін польскі фільм, героі якога, хлопцы 60-х, таксама слухалі "Beatles". Слухалі ў поўным ачмурэньні, утаропіўшы вочы на пакарабачаную "самастрэльную" кружэлку. У тых паляках я пазнаў сябе, і цёплая хваля ізноў паднялася ў грудзёх, і я парадаваўся за навачасную моладзь, якой ніхто ня крапае на мазгі і якая, хаця й зрэдку, слухае "куміраў заходняй эстрады" і іх неўміручую "Mishelle".
У траўні 1968-га прысьпеў студэнцкі бунт у Сарбоне. Я з такой нагоды не прапускаў аніводнага выпуску тэленавінаў, кожны раз набываў у шапіку тузін газэтаў і, зразумела, сымпатыі мае былі на баку студэнтаў. Пры гэтым душу кроіла шчымлівая крыўда: француская моладзь дзень да ночы слухала "Beatles", насіла даўгія валасы і джынсы, чытала немаведама што і ўсё адно бунтавала, а ў нашым Навапалацку дзень да ночы слухалі сьпевы Анатоля Каралёва, у цырульнях замаўлялі "кароткую стрыжку з праборам", насілі клёшы з трыма гузікамі на поясе, чыталі кніжонкі сэрыі "Подзьвіг" (літаратурны дадатак да часопіса "Сельская молодёжь") і выбівацца да цывілізацыі ніхто й ня думаў.
У сёмым клясе ў мяне зьявілася два надзейных сябра: Валеры Шлыкаў ды Анатоль Рыбікаў. Вучыліся мы ў адной школе, разам швэндаліся па горадзе і, урэшце рэшт, тройца наша разгарнула ў сьценах роднай агульнаадукацыйнай СШ № 2 змаганьне за «высокія ідэалы біт-музыкі». Пачалося змаганьне ўвосень 1969-га акцыяй, якую мы назвалі "сядзячы страйк". Напісалі крэйдай на седале разламанага крэсла лёзунг "Hands off from Beatles!", селі пад час вялікай пярэрвы на лесьвічным маршы і пачалі гучна біць ў ладкі. Ляпнем дзевяць разоў у пэўным рытме: /- - ... - - - - ../ , а потым гарлаем: "Эгэй!" Акцыю паўтаралі штодня і спынялі яе ў трох выпадках:
1) калі на лесьвіцы зьяўляўся дырэктар школы А. З. Герцыковіч, 2) настаўнік фізыкі й астраноміі Я. М. Крылоў, 3) настаўніца матэматыкі М. Т. Любамудрава. Дырэктару мы падпарадкоўваліся па рангу, а згаданых настаўнікаў проста паважалі.
Пачыналі страйк ўтрох, а неўзабаве на прыступкі сталі прысаджвацца нават вучні малодшых клясаў. Адзін зь іх, па прозьвішчы Полазаў, наогул хадзіў за намі як на павадку і мы даручалі яму трымаць "лёзунг". На лесьвіцы кожнага разу ўтвараўся затор: дзяўчынымдзесяціклясьніцы з пагардаю праз нас пераступалі, крапаючыся спадніцамі нашых вушэй, пераступалі й маладыя настаўніцы, а адна зь іх, "англічанка" па прозьвішчы Талкушкіна, пры гэтым узрушана мармытала: "Ужас, это просто ужас!"
Невядома, колькі б доўжылася нашая акцыя, але пэўнага дня мяне адклікала ўбок клясная кіраўнічка і ў прысутнасьці аднаклясьніц паведаміла: "Вы сядзіце на прыступках дзеля таго, каб зазіраць дзяўчынам пад спадніцы". Я, вядома, сумеўся, паспрабаваў апраўдвацца — маўляў, пад спадніцамі, апроч трусоў, няма нічога цікавага, аднак "сядзячы страйк" мы мусілі спыніць і перайшлі да іншых формаў маладзёвага пратэсту...
Кожны раз, калі заходжу ў офіс Супольнасьці "Ўсяслаў Чарадзей", які выдае гэты бюлетэнь, ягоны гаспадар, Васіль Храмцоў, запускае "сідыромаўскі" запіс майго любімага гурту. І тады я згадваю школу, нашыя "пратэстацыйныя" выбрыкі, якія праз колькі гадоў скончыліся ва ўтульным габінэце КГБ, бязгучна прамаўляю: "Я ж мог пражыць зусім іншае жыцьцё!" — і тут жа, увасьлед за бунінскім героем, рашуча хітаю галавой.

**Вінцэсь Мудроў.**

**Споведзь зьняверанай душы**

# Ігар Куржалаў: «Ці варта жыць у краіне адстаўнікоў?»

*Ігар Куржалаў нарадзіўся ў 1957 годзе ў Віцебску. У 1984 годзе скончыў С.-Пецярбурскую вышэйшую мастацка-прамысловую вучэльню імя В. Мухінай. Па спэцыяльнасьці — мастак па інтэр'ерах. Сябар Беларускага зьвязу дызайнэраў. Аўтар канцэпцый шэрагу рэспубліканскіх музэяў.*

Нарадзіўся я ў г. Віцебску, жыў у маладосьці на вуліцы Стадыённай--тадышняй гарадзкой ускраіне- і гэтая ўскраіна, зь яе насельнікамі і патрыярхальным бытам, напоўнілі душу самымі рознымі пачуцьцямі. Віцебск, у маім разуменьні — гэта квінтэсэнцыя сёньняшняй Беларусі; краіны, якую з поўным на тое правам можна назваць прытулкам прышлых адстаўнікоў і тутэйшых хамаў.



Мастак з сваёй дачкой Анастасіяй.

На ўсё жыцьцё адбілася ў памяці: пыльная віцебская вуліца, з-пад трамвайнай дугі сыплюцца іскры-маланкі, а па ходніках ідуць, пад ручку з сваімі жонкамі, расейскія адстаўнікі. Ідуць як заваёўнікі, як тэрмінатары, як гаспадары маёй зямлі. Ня ведаю чаму, але я з маленства незалюбіў гэтых таўстазадых "тэрмінатараў».

Бацька мой родам з Суражчыны, з таго рэгіёну, які, нават па беларускіх мерках, лічыцца адным з самых занядбалых у Віцебскай вобласьці. Пад час вайны ён быў у партызанах, у складзе брыгады бацькі Міная, патрапіў у нямецкі палон і дзесяць гадоў потым "гасьцяваў" у савецкім ГУЛАГу. Пагасьціны тыя даліся ў знакі — падарвалі здароўе, і бацька, колькі памятаю, лаяў Сталіна, называючы таго вусатым злачынцам. А вось другога злачынцу — Леніна — шчыра любіў і мы зь ім на гэтую тэму заўсёды страшэнна спрачаліся. Прыканцы жыцьця, разам зь іншымі пэнсіянэрамі, палюбіў яшчэ аднаго дзеяча — Лукашэнку. Галасаваў за яго на першых (і, як я лічу, апошніх) дэмакратычных прэзыдэнцкіх выбарах, кожнага дня чакаў паляпшэньня жыцьця, але не дачакаўся — памёр тры гады таму, пакінуўшы па сабе сьветлую памяць.

Дзякуючы бацьку, я і зьвязаў сваё жыцьцё з мастацтвам. Бацька мой быў самадзейным мастаком — маляваў на адваротным баку цыраты адмысловыя краявіды. Адразу па вайне падобны "жанар" карыстаўся вялікай папулярнасьцю: людзям трэба было хоць чымсьці завесіць голыя сьцены — вось яны і вешалі цыраты з выявамі алепяў ды русалак.

Ну а канчаткова мяне "выправіў" у мастакі мой стрыечны дзядзька — Віктар Міхайлавіч Лук'янаў. Ён у той час вучыўся ў віцебскім "худграфе", кватараваў у нас, і я, зразумела, цэлымі гадзінамі вісеў над дзядзькавым плячом, назіраючы — як кладуцца фарбы на палатно і нараджаецца карціна. Неўзабаве я і сам пачаў маляваць і рабіў гэта з захапленьнем. Яшчэ адно маё захапленьне ў тыя гады — поп-музыка. Прыкладна зь пятага кляса літаральна прыліп да прыймача, слухаючы музычныя перадачы "Голаса Амэрыкі", "Радыё Швэцыі" ды іншых "варожых" радыёстанцый. Вось так, пад акампанэмэнт залівістага вою глушылак, і даводзілася слухаць любімую музыку, і чым болей я яе слухаў, тым больш праніналася думкай пра тое, што недзе ёсьць зусім іншае жыцьцё, дзе можна дасхочу слухаць "Beatles", насіць даўгія валасы, маляваць і пісаць усё, што табе падабаецца, і дзе няма камсамолу і камуністычнай партыі.

Такім чынам, здаваць прыёмовыя іспыты ў Віцебскі пэдінстытут абітурыент Куржалаў прыйшоў зацятым дысыдэнтам, апантаным прыхільнікам творчай свабоды і індывідуальнай незалежнасьці. Іспыты здаў пасьпяхова (паступаў, вядома ж, на мастацка-графічны факультэт), але, прыйшоўшы ў першы дзень на заняткі, быў папросту ўражаны духам несвабоды, які панаваў на факультэце.

У той момант на "худграфе" лютаваў Васіль Рыгоравіч Шаталаў — дэкан факультэту. Адметны ён быў тым, што, не шкадуючы " живота своего", змагаўся з Маркам Шагалам:

пісаў "мастацказнаўчыя" артыкулы, жагнаў беднага Марку палымяным бальшавіцкім словам, карацей, выкрываў прадстаўніка заходняга дэкадэнцтва колькі меў змогі. І вось гэты Васіль Рыгоравіч безьліч разоў выганяў мяне з заняткаў з прычыны маіх даўгіх валасоў. "Запомните — казаў у хвіліны творчага натхненьня тав. Шаталаў, — мы из вас готовим не художников, а преподавателей. А преподаватель должен быть тщательно выбрит и подстрижен".

Аднойчы — я тады вучыўся на чацьвертым курсе — мяне чарговым разам выгналі з занятак і я, паблукаўшы па горадзе, вырашыў зьбегчы з "мастацка-графічнай калёніі імя Дзяржынскага". Напісаў заяву з просьбаю аб адлічэньні і падаўся ў Піцер — паступаць у "Мухінку".

Пасьля "калёніі імя Дзяржынскага" Вышэйшая мастацка-прамысловая вучэльня выглядала апафэозам свабоды і вальнадумства. Там панаваў эўрапейскі дух: хочаш хадзі на заняткі, хочаш — не хадзі; хочаш — насі даўгія валасы, хочаш — карнайся пад лысага; адпусьціў бараду — выкладчыкі слова супраць ня скажуць, балазе, многія самі хадзілі з барадамі. Архітэктар Лукін — рэктар вучэльні — вітаючы нас, першакурсьнікаў, сказаў літаральна наступнае: "Запомните, мы должны сделать из вас не кого-нибудь, а художников". У сьценах вучэльні рыхтавалі не "тщательно выбритых преподавателей", а мастакоў і я шчыра дзячу за тое сваёй alma mater.

Потым было войска. Служыў там жа, у Піцеры, пры Сувораўскай вучэльні. У начальніках вучэльні хадзіў генэрал, якому заставаўся год да адстаўкі. Перастрахоўшчык быў страшэнны. Тэлефануе сярод ночы: "Рядовой Куржалов? Берите краски и пишите объявление следующего содержания: "Хода нет! Туалет закрыт на ремонт." В шесть часов утра объявление должно висеть у туалета на втором этаже!"

Гэты генэрал любіў казаць мне і іншым "нярускім", што служылі ў роце: «Лучше России страны на свете нет! Она весь мир кормит! Запомните это раз и навсегда!» — пры гэтым у служакі нават губа адвісала ад гордасьці за "лепшую краіну ў сьвеце". Праўда, пад час водпуску генэрал чамусьці езьдзіў адпачываць не на расейскія курорты, а ў Карлавы Вары.

Пасьля войска падаўся на Поўнач — захацелася рамантыкі. Там, у Манчагорску, працавалі мае былыя аднакурсьнікі — яны мяне і пад'юдзілі выправіцца на Кольскі паўвостраў.

Што мяне ўразіла на Поўначы, дык гэта стаўленьне людзей да прыроды і да ўсяго жывога, што жыло ў тамтэйшай тундры. Усе вазёры ў навакольлі былі атручаныя і засьмечаныя, усё навокал было пераарана, перакулена і пазасыпана сьмецьцем. Калі я казаў сваім сябрам: як жа так можна ставіцца да прыроды? — яны дзівіліся маім словам і адказвалі:"А што з таго возера? Ты што, у ім купацца будзеш?" Тут, прызнаюся, мне і адкрылася шырокая расейская душа, і штосьці кальнула пад сэрцам, і я ўголас прашаптаў: "Трэба вяртацца да дому".

... Першым, з кім пазнаёміўся ў Наваполацку, быў мастак Сяргей Цімохаў. Сяргей паціснуў мне руку і адразу ж загаманіў па-беларуску. Я ўпершыню пачуў беларускую мову з вуснаў жывога чалавека, да таго ж таленавітага мастака. З часу тае сустрэчы мінула шаснаццаць гадоў, а я й дагэтуль памятаю кожнае слова, сказанае спадаром Сяргеем.

"Вось жа я... сын працоўнага беларускага народу. Жыву, ня ведаючы ні сваёй гісторыі, ні літаратуры, ні фальклёру. Балбачу па-расейску... І чым я, уласна кажучы, розьнюся ад тых жа расейцаў-адстаўнікоў, ці мясцовага люмпэну?"— такія думкі апанавалі мяне пасьля сустрэчы з Цімохавым. А яшчэ праз пару дзён я дастаў сякую-такую літаратуру, зь якой даведаўся, што культура ў Масковію ішла праз Беларусь і што Вялікае Княства Літоўскае было беларускай дзяржавай...

Кожнага разу, калі сяджу ля мальбэрту, разважаю пра ўласны лёс, лёс сваіх дзяцей і лёс сваёй няшчаснай Бацькаўшчыны.І плодам такіх разважаньняў стала думка пра тое, што Беларусь наша ўжо ніколі ня будзе беларускай. Вельмі далёка зайшла нацыянальная і духовая дэградацыя, вельмі моцна трымаюць нас у сваіх абдымках расейскія "браты", надта шмат да нас панаехала адстаўнікоў ды іншых беларусафобаў. Расея, з дапамогаю спэцслужб, паставіла тут свайго чалавека, захапіла літаральна ўсе большменш значныя кіруючыя пасады, а таму нам, сьвядомым беларусам, жыцьця тут ня будзе.

Мой менскі сябар распавядаў, як падчас адной апазыцыйнай акцыі на сталічнай вуліцы адзін з афіцэраў сіпла гукаў:

— Ничего, бл-лядь: зачистим Грозный, а потом сюда приедем. Научим вас уважать Лукашенко!

І прыедуць... І навучаць... Пагатоў, у самой Расеі цягам апошняга стагодзьдзя ўлады зьнішчылі неверагодную колькасьць людзей. А таму я ніколі не асуджаю тых, хто зьехаў за мяжу. Жыцьцё даецца чалавеку аднойчы і зусім неабавязкова пражыць яго ў атачэньні прапаршчыкаў, гарадзкіх бамжоў, п'яных цётак, напаўзвар'яцелых пэнсіянэраў і неаднаразова згаданых мною адстаўнікоў — сымболю сёньняшняй Беларусі.

**Запісаў Вінцэсь Мудроў.**

# ЗЯМЛЯ, ЯКУЮ ПАКІДАЮЦЬ

*Цягам усяго XX стагодзьдзя ехалі з Полаччыны ў шырокі сьвет яе насельнікі. Шырокі сьвет ляжаў на ўсходзе і на яго абшарах знайшлі сабе прытулак тысячы палачанаў. Усе гэтыя сто гадоў ляцелі на ўсход, грукочучы на стыках, двухвосныя "сталыпіны", чатырохвосныя энкапээсаўскія цяплушкі, цэльнамэталёвыя эмпээсаўскія вагоны, у якіх сядзелі, ляжалі і стаялі, прагна ўдыхаючы праз вокны (якія, часам, бывалі закратаваныя) паравозны дым добраахвотныя і нядобраахвотныя перасяленцы. Апошняя, самая памятная хваля перасяленьняў, прыпала на канец саракавых — пачатак пяцідзесятых гадоў — на час славутых аргнабораў на карэльскі лесапавал, на ўдарныя будоўлі камунізму, на асваеньне цаліннай ды абложнай зямлі.*

Аўтару гэтых нататак свойчас давялося павандраваць па Заходняй Сібіры і пагаманіць з тымі перасяленцамі.

"Сам я з Расонаў. Родных не засталося — чаго туды ехаць?" — казаў мне сіваталовы чыгуначнік на пэроне сургуцкага вакзалу.

"А што там рабіць, у тым балоце?"— казаў, згадваючы радзіму, другі зямляк, зь якім мы выпівалі ў рэстарацыі цюменскага лётнішча "Рощино".

"Пятнаццаць гадоў адпрацаваў — ні табе кватэры, ні табе грошаў..."— згадваў радзіму яшчэ адзін мой суразмоўца — нафтавік з Наябрску.

Я слухаў сібіракоў-беларусаў, глядзеў у іхныя вочы і ня бачыў у іх ні каліва маркоты. Для іх радзіма была далёкай і амаль забытай мясьцінай, дзе ім лёсіла нарадзіцца і жыць і дзе ім "ня далі хаты", "мала плацілі" і наогул не цанілі як работнікаў. Ад часінаў аргнабораў мінула сорак пяць гадоў, і вось на Беларусі ўзьнялася чарговая хваля эміграцыі. Гэтым разам жыхары цяпер ужо незалежнай Рэспублікі Беларусь пабеглі ня толькі на ўсход, але і на поўдзень, і на захад, і на ўвесь акаляючы нас прасьцяг. Каму пашанцавала — зьехалі за акіян, хтосьці ўладкаваўся на працу ў Нямеччыне, хтосьці паехаў у Польшчу, але асноўная маса працоўнага люду падалася ізноў-такі ў Расею — будаваць дамы і дарогі, сеяць жыта і вадзіць аўтобусы, прадаваць кавуны і круціць балты на заводах, атрымліваючы за сваю працу ў некалькі разоў болей, чым на Бацькаўшчыне. А сьледам за рабацягамі, знасіўшы апошнія штаны, паехалі шукаць лепшай долі і прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі.

* * *

Пахмурным кастрычніцкім днём мы сядзелі зь сябрам на кухні і пілі каву. Калідор малагабарытнай кватэры быў застаўлены валізамі і клункамі, і ўся навакольная атмасфэра была насычаная адчуваньнем блізкіх пярэбараў.

— Якое там нацыянальнае адраджэньне, — казаў сябар, боўтаючы лыжкай у шклянцы. — Пятая частка сьпілася, яшчэ столькі ж — дэбілы, а астатнія... — што зь сябе ўяўляюць астатнія, сябрук не дагаварыў: з кухоннай столі, акурат у ягоную шклянку, нечакана апусьціўся ўвішны павучок.

— Во халера... з гэтымі пярэбарамі і павуціньне няма калі зьняць... — сябрук адчыніў фортку, пусьціў павучка на ветру і, пасьля паўзы, дадаў: — Можа яшчэ і вярнуся.

Кастрычніцкім днём 1994 года мой сябар, гісторык Сяргей Сінькевіч, зьяжджаў у Піцер. Пару гадоў таму ён пачаў пісаць навуковую працу, актыўна дзеяў у Народным фронце і вось, прыціснуты галечай і адсутнасьцю ўласнага жытла — мы сядзелі зь ім на кватэры ягоных бацькоў, — вырашыў зьехаць у Піцер.

— Нават не з-за грошаў еду, — паведаміў мне Сяргей на разьвітаньне. — Вунь... Алесь Адамовіч... ён што, з-за нізкага акладу ў Маскву падаўся? Ды не... зьбег ад дэбілаў. Жывем, бляха — ні сур'ёзных выданьняў, ні адукаваных людзей, ні нармальных бібліятэк — нічога няма.

Я слухаў сябра, у душы пагаджаўся зь ягонымі словамі і згадваў сваіх родных цётак, якія па вайне атабарыліся ў Ленінградзе, зазналі там пакутаў, выгадавалі дзяцей, атрымалі прыстойныя кватэры, але шчасьлівага жыцьця на чужыне так і ня ўбачылі.

Ужо ў калідоры я распавёў Сяргею пра цётак, ён запісаў іх тэлефонныя нумары — каб перадаць прывітаньні — і паціснуў мне руку.

— Можа яшчэ і вярнуся! — крыкнуў Сяргей, калі я выходзіў з пад'езду. Ён крыкнуў яшчэ нешта, але слоў было не разабраць. Іх заглушыла рыпеньне пад'ездных дзьвярэй.

* * *

Гэтыя нататкі я напісаў амаль шэсьць гадоў таму. Сяргей Сінькевіч назад не вярнуўся — знайшоў у Піцеры працу і цяпер зьбірае грошы на кватэру. Пад час апошняга свайго прыезду Сяргей, згадаўшы сытуацыю на Беларусі, уздыхнуў і параіў мне зьехаць зь Беларусі.

— Тут жыцьця ня будзе, — канстатаваў сябар.

Слухаючы піцерца, я ўспомніў шматлікіх знаёмых, якія разьехаліся ва ўсе канцы сьвету, і, урэшце рэшт, падумаў пра тое — якое гэта няшчасьце: жыць і памерці ўдалечыні ад роднага дому.

**Ул. МАКАРКО.**

## У ЛЮСТРЫ ЧАСУ

# ЗАЛАТЫЯ АГНІ ГІДРАСТАНЦЫІ

*Прыкладна месяц таму ў прыдзьвінскай вёсцы Лучна Полацкага раёну зьявілася геалягічная тэхніка, па Дзьвіне паплылі вадамерныя катэры і на пытаньне вяскоўцаў: што тут зьбіраюцца рабіць? — барадатыя дзядзькі ў штармоўках адказалі: "Будзем будаваць гідрастанцыю".*

Устрывожаныя жыхары сталі званіць у аблвыканкам, пачалі пісаць калектыўныя лісты ў газэты з просьбаю растлумачыць сытуацыю, аднак уцямнага адказу на свае пытаньні так і не атрымалі. Трывогу жыхароў вёскі Лучна можна зразумець — будаўніцтва ГЭС сур'ёзна ўскладніць іхнае жыцьцё, апроч таго, у пэрспэктыве, будуць залітыя навакольныя паплавы, а то й сама вёска. І ў дадзеным выпадку, каб пазьбегнуць плётак і панікі, патрэбная аб'ектыўная і дакладная інфармацыя. Аднак яе, як паказала практыка, цяжка здабыць нават журналістам дзяржаўных выданьняў.

І ўсё ж удалося высьветліць наступнае: на адцінку ад Віцебску да Полацка неўзабаве мусяць паўстаць чатыры гідраэлектрастанцыі і Лучненская, якая будзе месьціцца ў 14 кілямэтрах вышэй Полацка, стане першай у каскадзе. У дадзены момант вядуцца праектовыя ды вышуковыя




працы, на якія выдаткавана 100 тысячаў даляраў. Выконвае праект менскі інстытут «Белэнэргасеткапраект», а замоўцам зьяўляецца канцэрн «Белэнэрга». Ужо атрыманыя тэхумовы ад усіх зацікаўленых інстытуцыяў, у тым ліку дзяржаўных прыродаахоўных арганізацыяў ды рыбнагляду і паводле іх узровень вады ў вадасховішчы не павінен перавышаць максымальнага ўзроўню вясновай паводкі.

Заўважым, што ў сытуацыі, калі ў дзяржавы бракуе сродкаў на набыцьцё нафты і газу, яна, дзяржава, мусіць шукаць альтэрнатыўныя энэргетычныя крыніцы. І разьвіцьцё гідраэнэргетыкі, такім чынам, справа цалкам апраўданая. Адно што патэнцыял гідраэнэргетычных рэсурсаў у нас невялікі, да таго ж будаўніцтва ГЭС зьвязана з сур'ёзнымі экалягічнымі праблемамі, а вадасховішчы на раўнінных рэках уяўляюць з сябе штучныя вазёры з цьвілай вадой. І тут, яшчэ на стадыі праектаваньня, нялішнім быў бы кантроль за выкананьнем тэхумоваў з боку незалежных экспэртаў. Улады, аднак, добра памятаюць 1987 год, калі, дзякуючы магутнаму экалягічнаму руху, было спынена будаўніцтва на Дзьвіне Даўгаўпілскай ГЭС. Таму падрыхтоўчыя працы на ўзьвядзеньні Лучненскай гідрастанцыі вядуцца цішком, без якой-кольвечы інфармацыі на гэты конт, што і выклікае зразумелую трывогу мясцовага насельніцтва.

У якасьці пастскрыптума адцемім, што падобныя захады выглядаюць залішнімі, бо экалягічны рух у нашай краіне ўжо даўно не выяўляе ніякай актыўнасьці.

***Аглядальнік.***

# Абраныя дэлегаты на Ўсебеларускі зьезд

У рэспубліцы распачалася падрыхтоўка да Ўсебеларускага зьезду, які мае прайсьці ў ліпені. Днямі, у рамках такой падрыхтоўкі, у Наваполацку адбыўся сход жыхарства, на якім былі абраныя дэлегаты дэмакратычнага форуму. Сход праходзіў непасрэдна на адным з гарадзкіх пляцаў і яго правядзеньне было санкцыянавана ўладамі.

У наваполацкім дэмакратычным асяродку да ідэі правядзеньня падобнага мерапрыемства стаўленьне неадназначнае. Многія лічаць, што ён праводзіцца несвоечасова і што Акт незалежнасьці, які мяркуецца прыняць — гэта адчочны перабор, бо цягам апошняга стагодзьдзя было прынята тры падобных акты. Кансалідуючую ролю на сходзе згуляла прысутнасьць кіраўніка працоўнай групы па правядзеньні зьезду Аляксандра Старыкевіча. Імя гэтага журналіста добра вядомае ў Наваполацку, да голасу спадара Старыкевіча народ прыслухоўваецца, а таму ягоны выступ перад грамадой зьняў усе пытаньні наконт мэтазгоднасьці правядзеньня зьезду.

Кіраўнік працоўнай групы зазначыў, што абсалютна прыярытэтная задача сёньня — захаваньне незалежнасьці краю і правядзеньне зьезду — гэта закладка чарговага камня ў падмурак нашага Беларускага дому.

Пасьля непрацяглай дыскусіі прысутныя на сходзе грамадзяне абралі чатырох дэлегатаў зьезду. Гэта: старшыня гарадзкой суполкі Таварыства беларускай мовы Алесь Рымша, пэнсіянэрка Раіса Жарнасек, старшыня мясцовага Незалежнага прафсаюзу прадпрымальнікаў Валер Шаўчэнка і кіраўнік філіі праваабарончага цэнтру "Вясна" Зьміцер Салаўёў.

**V.M.**

# АКТУАЛІІ

## Абяцалі адно — выйшла другое

Сярод процьмы гарадзкіх праблемаў фігуруе і такая: адсутнасьць у Наваполацку грамадзкіх прыбіральняў. Мяняюцца "мэры", пішуцца пляны сацыяльна-культурніцкага разьвіцьця, гучаць абяцаньні зьняць гэтую праблему з парадку дня, але за апошнія дваццаць гадоў аніводнай грамадзкай прыбіральні ў нас не зьявілася. Больш таго: нават тыя, што існавалі, былі зачыненыя, зруйнаваныя альбо перапрафіляваныя. Клясычны прыклад — "М &Ж" на вуліцы Дружбы.

Згаданы аб'ект, калі не памыляемся, быў здадзены ў эксплюатацыю дзесьці прыканцы сямідзесятых. І вось, гадоў шэсьць таму, на гэтым месцы вырашылі ўзьвесьці ўнівэрсам. Дзеля гэтай мэты трэба было зьнесьці прыбіральню, высекчы дзесятак старых хвояў і падобная пэрспэктыва не задаволіла дэпутатаў гарадзкога Савета. Заўважым, што далукашэнкаўскім часам Савет меў пэўныя паўнамоцтвы і бяз згоды дэпутатаў у горадзе нельга было сьсекчы аніводнага дрэва.



Пад час разгляду на сэсіі гарсавету пытаньня ад мэтазгоднасьці будаўніцтва ўнівэрсаму ў зялёнай зоне, узьнікла дыскусія. Многія дэпутаты пратэставалі супроць такога будаўніцтва. Аднак "унівэрсамаўскаму" лёбі ўдалося пераканаць дэпутацкую грамаду ў неабходнасьці пабудовы ў дадзеным раёне ўнівэрсальнай гандлёвай кропкі, а, да таго ж, было агучанае непарушнае абяцаньне адчыніць, замест зьнесенай прыбіральні новую, больш сучасную і зручную.

Будаўніцтва абяцанага ўнівэрсаму доўжылася цэлую пяцігодку і вось, нарэшце, з будынку зьнялі рыштаваньні і ў яго ўехала — бяз лішняга шуму — мясцовая філія «Беларусбанку».

Ну і, вядома, ніякіх тлумачэньняў на гэты конт з боку мясцовых уладаў не было. Ды і якія тут могуць быць тлумачэньні: стары Савет загавеў душою, а новы наўрад запярэчыць, нават калі на месцы абяцанай царквы збудуюць публічны дом.

**Аглядальнік**

# КУПАЛЬЛЕ-2000



***Сёлетняе сьвята росквіту жыватворных сіл прыроды прайшло як ніколі весела і нязмушана. Ладзілася яно, па старой паганскай звычцы, у дзень летняга сонцастаяньня на маляўнічым Наўліцкім возеры, і арганізаванае было супольнасьцю "Ўсяслаў Чарадзей".***

***Сьветлым, але прахалодным вечарам на беразе возера сабралася звыш сямідзесяці чалавек, прычым гэтым разам у госьці да новапалачанаў прыехалі маладыя беларусы зь іншых рэгіёнаў — былі нават людзі зь Берасьця. Прысутнічаў на сьвяце і лідар нацыянальнай дэмакратычнай плыні Вінцук Вячорка з жонкаю Арынай.***

***Усенькую ноч па-над возерам луналі купальскія песьні, моладзь вадзіла карагоды і языкатае вогнішча шпурляла ў цёмнае неба плоймы гарачых зьнічак. Ну а пад раніцу, як і заўсёды такой парой, неба і возера сьвяціліся асаблівым прывідным сьвятлом. Лявон Сас, які, здаецца, за апошняе дзесяцігодзьдзе не прапусьціў аніводнага Купальля, назваў сёлетняе сьвята незвычайным і з гэтымі словамі мусілі пагадзіцца ўсе, хто разам зь ім злучыў сваю істоту з жывой прыродай.***

**Мадэст Ехідняк**


Інфармацыйнае выданьне
Грамадзкага Аб'яднаньняКультурніцка-Асьветніцкіх Ініцыятываў "УСЯСЛАЎ ЧАРАДЗЕЙ".
Распаўсюджваецца на правох рукапісу.
Адрэса для допісаў:211440.Наваполацак-8,п\с № 26

Рэдакцыйная Рада: Вінцэсь Мудроў, Васіль Храмцоў, Уладзімер Кунцэвіч.

За дакладнасьць фактаў і лічбаў нясуць адказнасьць аўтары.
Думкі аўтараў могуць не супадаць зь меркаваньнем рэдакцыйнай Рады